А. Новікаў-Прыбой



# На падводнай лодцы



„Чырвоная зьмена“

А. НОВІКАЎ-ПРЫБОЙ

# НА ПАДВОДНАЙ ЛОДЦЫ

АПАВЯДАНЬНЕ



VII

26975



ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"
МЕНСК —— 1928

## НА ПАДВОДНАЙ ЛОДЦЫ.

Імчыцца «Мурэна», глытае прастору ночы. Настойліва грукаюць дызэль-моторы.

На сьвітаньні захаладала. Задзьмуў норд-вэст, імпэтны, як малады жарабок. На ўсходзе воблакі напаліліся да чырвані, як жалеза ў гарне. Мора расьцьвіла півонямі. Зірнула сонца, павіншавала ўсіх з добрым раньнем. Хвалі засьвяціліся бліскучымі ўсьмешкамі. Але ў наступную хвіліну ўсё пацямнела. Неба і мора спахмурнелі. А пасьля палудня пачалася шалёная вясёласьць.

Я стаю на верхняй палубе. Рукі моцна трымаюцца за жалезныя поручні рубкі. Не адарвеш! Мора грыміць, раве праз мільёны адчыненых ратоў. Падымаюцца кіпучыя горы, звальваюцца на борт. Ня страшна! Наша «Мурэна» ўстойлівая, як «ванька-ўстанька». Яна качаецца на кіль, як каромысел вагі. Высока ўзьніме свой

гостры нос—зараз, здаецца, скочыць у бурлівае паветра. Яшчэ момант—і ўжо хаваецца ў масе клякочучай пены. А бяздомны бадзяга вецер, вечны мой друг, сьвішча ў вушы: «Люблю адважных!» Набяжыць хваля, абальле і сьмяецца: «выкупайся! ха-ха...» Я мокры да апошняй ніткі, але ісьці на ніз ня хочацца.

На рубцы стаіць камандзір з біноклем у руках. Вусны яго моцна сьціснуты, канец барадкі затупіўся. Шэрыя вочы пранізваюць памутнелы горызонт. Зьвяртаецца да мяне, крычыць:

— Чаго ты стаіш тут дарма?

— Дзівуюся на непакой у прыродзе, ваша высокаблагародзіе. Камандзір махнуў рукою, усьміхнуўся.

Набягае вялікая зялёнавокая хваля. Агарнула мяне пенай. Імчыцца за карму. А вецер ашалеў ня ў меру: расьпірае мне ноздры, выварочвае вочы, салонымі пацалункамі мызгае вусны.

Шалей лютая бура, шумі мацней! Мяне не спалохаеш!

Я ў самым цэнтры шалёных скокаў. Навакол мяне—усё ў руху. Вада расступаецца, змыкаецца, выкрыўляецца, па-

казвае небу пенныя языкі. Над галавою, у недасяжных высях, клочацца п'яныя арабы: рвуць жалеза, скочваюць з чыгунных гор тысячапудовыя бочкі. Клубяцца хмары, сякуць па іх вагністыя бічы. Нехта запальвае фэервэрк. Хвалі патрасаюць мне белымі сьцягамі. Унутры лодкі б'юцца пяцьсот конскіх сіл. Я выпускаю ў сваіх думках гэты табун коняй на паверхню мора. Яны шалёна імчацца ў туманную далеч. «Мурэна» імкнецца ўсьлед, танцуе, скача, размахваецца, кідаецца, як сані па выбоінах. Эх, трымайся мацней! Толькі дыямэнтавы пыл круціцца ў паветры.

Ня вытрываў старэнькі бог—заплакаў буйнымі сьлязьмі.

Я спусьціўся ўніз да дробнага грукату дызэляў, да чаднага паху перагарэлага соляру.

Праходжу праз кают-кампанію. Штурманскі афіцэр на сваім маленькім століку разьбіраецца ў марскіх картах. Перад ім розныя прылады—бaромэтр, паказчык хуткасьці, паказчык адлегласьці, глыбокамер, компас Спэры, перагаворныя трубкі. Старшы афіцэр Голубеў ляжыць на койцы ў сваёй маленечкай каютцы, задраўшы ногі на пераборку. Ён высьвіствае

песьні, як салавей. У насавым аддзяленьні–большасьць каманды. Тут душна. Некаторыя мучацца марскою хваробаю, покатам ляжаць на скрынях. Камбузнага Нэпра так загойдала, што ён ляжыць нярухома, з пазелянелым тварам і шклістымі вачыма. Матросы пакрылі яго белаю посьцілкай і адпяваюць: «Са сьвятымі упакой»... Выбухае рогат.

Пад вечар зьмянілі курс. Пачалася бартавая гойдаўка. Далей ісьці нельга–«Мурэна» можа захліснуцца.

Скамандвалі апусьціцца пад ваду.

———

Лодка ляжыць на глыбіні сто пяцьдзесят футаў. Ніякай гойдаўкі. Бура далятае да нас толькі аддаленым гулам. А тут ціха. Толькі гудуць, як жукі, вэнтылятары, раўнуючы паветра.

Марское хваробы як і ня было. Усе сталі бадзёрыя. Камбузны Нэрпа займаецца гатаваньнем.

Залейкін накручвае грамафон. Гэта яго ўлюбёная справа. Да яго чэпяцца матросы.

— Збрашы, браток!

— А ну вас да ліха!—адмахваецца Залейкін.

— Тфу, чорт! Ну, што табе варта языком пастукаць? А мы-б паслухалі.

— Слухайце лепш грамафон. Настаўляю «Ліпу векавую». Эх і песьня! Паміраць буду—каго-небудзь папрашу засьпяваць яе. Абавязкова папрашу. А калі хопіць сілы—сам засьпяваю. З песьняй пайду на той сьвет.

Залейкін узьняў брыво і стаіць быццам зачараваны тэнарам сьпевака.

Над дзьвярыма афіцэрскага аддзяленьня вісіць Мікола цудатворац. З-за шыбы пазалочанагаківоту ён строга глядзіць на матросаў, быццам нездаволены, што яго ўсе забылі; яму прыходзіцца слухаць не малітвы, а самую жахлівую лаянку, якую толькі можна ўздумаць. На ўсю каманду толькі адзін чалавек адносіцца да яго пахрысьціянску—гэта малады матрос Мітрошкін. І сёньня, пасьля вячэры, перад тым як залезьці пад коўдру, ён абарочваецца і хрысьціцца на абраз.

— Матаеш?—пытаецца ў яго Зобаў з злосьмешліваю ўхмылкай.

— Так, бо я не такі бязбожнік, як ты!—злуецца Мітрошкін.

— Я ня ведаю ніводнага сьвятога з матросаў. Значыць, надарэмна стараешся.

— Адчапіся, магнітная душа!

Але Зобаў спакойна кажа:

— Ты ня злуй. Я табе да-рэчы кажу. Вазьмі, вось, асла: Хрыста на сабе вазіў, а якая карысьць? Усё роўна ў рай ня трапіў.

Падхапляюць другія матросы.

А і праўду бяздротавы бухнуў. На што ўжо была протэкцыя ў асла, усё-ж застаўся няшчасным аслом...

Каманда сьмяецца, а Мітрошкін ляжыць пад коўдраю і нездаволена бурчыць.

---

На паверхню мора ўсплылі раніцою. Небасхіл чысты. Плывем далей.

Ад учарайшае буры засталася толькі мёртвая брунь. Роўна калышацца «Мурэна». Над намі сьвежым блакітам зьзяе бязводны акіян. А ўнізе—зыбучы стэп без канца-краю.

Стукаюць дызэлі, упарта рухаюць лодку да таямнічага небасхілу.

Што чакае нас там, за гэтаю сіняй граньню?

---

Палуднуючы, толькі што прыступілі да апошняе стравы, улюбёнага кампоту, як пачынае званіць аўральны званок. Ён так голасна і рэзка трашчыць, што заўсёды зьбянтэжыць нэрвы. Кідаем свае міскі.

Сьпешна рыхтуемся да апусканьня.

У галаве мільгае думка, што на гэты раз давядзецца спаткацца з ворагам.

— Прыняць у раўнальную!—камандуе камандзір.

— Ёсьць, прыняць у раўнальную!

— Электромоторы наперад! Дзевяцьсот ампэр на вал!

Ідзем на глыбіні пэрыскопу. Пасьля баявое трывогі гутарыць ня можна. Ціха. Слыхаць, як ціненька і маркотна цягнуць свой сьпеў электрамоторы. Безадказна б'ецца думка: што робіцца наверсе? Сур'ёзна ці так сабе? Толькі камандзір ведае пра гэта, толькі ён адзін злучаны праз пэрыскоп з божым сьветам. А рэшта, звыш сарака чалавек, ужо ня людзі. Гэта жывыя прылады ў дадатак да тых нязьлічоных прылад, якія ёсьць на лодцы.

Праз чвэрць гадзіны ўсплываем.

— Камэндоры, да гармат!

Адчыняем люкі. Разам з іншымі і я выскакваю на верхнюю палубу. Перад намі—

нямецкі параход. Ад нашага сыгналу ён спыняецца, цяжка гойдаецца на лянівых хвалях. Падыходзім бліжэй. На палубе відаць быдла. Старшы афіцэр Голубеў крычыць нешта ў рупар панямецку. На параходзе падымаецца чаўпятня. Праз некалькі мінут увесь яго экіпаж пераходзіць на шлюпкі і адплывае ў бок. А шлюпка з капітанам і ягоным памоцнікам кіруецца да нас.

Камэндоры расстрэльваюць параход, але ён топіцца павольна. У кармовай частцы ўзьнікае пажар. Быкі пачынаюць роспачна раўсьці. Некалькі быкоў выскачылі за борт, шпарка адплываюць ад свайго судна.

Мы забіраем да сябе капітана і ягонага памоцніка. Рэшту пакідаем на волю лёсу ў шлюпках на моры. Яны накіроўваюцца да ледзь прыкметнага берагу. Ім прыдзецца плысьці да яго вельмі доўга.

«Мурэна» ідзе далей.

Да нас прыбіваюцца быкі, якія скочылі з параходу, плывуць за намі ў кільватэры. Іх пяць штук. Адзін з іх, найбольшы, чорны, белагаловы, наперадзе. У яго вырваныя рогі, а можа быць адбітыя снара-

дам. Ён падымае акрываўленую мызу і мычыць у сьмяротнай тузе.

Параход увесь абхоплены агнём. Бухае полымя, зьвіваецца, выкідае воблака чорнага дыму. Страшны роў быкоў, роў цэлага стада патрасае паветра, далёка разносіцца па моры. У ім—мальба дапамогі, у ім праклёны нам. Карма пачынае шпарка асядаць. Яшчэ хвіліна—і параход схаваўся ўвесь. Выбухаюць паравыя катлы, выбух падымае вялізарны стоўп вады—апошні ўздых параходу.

Парахода ня стала.

Пастарому бруніць мора.

«Мурэна» павялічвае ход. Быкі пачынаюць адставаць. Толькі адзін, белагаловы, наймацнейшы, усё яшчэ трымаецца недалёка ад нас. Ой, як ён мычыць! Ён пачынае буяць на нізкай актаве і канчае на высокай, крыху завываючай ноце. Гэты перадсьмяротны крык гінучай жывёлы цісьне за сэрца, прыгнятае душу.

Матросы глядзяць назад, за карму, моўчкі. Усе з сур'ёзнымі тварамі, быццам толькі што пахавалі блізкага чалавека. А электрык Сідараў, гэты непапраўны п'яніца, няпрыкметна выцірае сьлёзы.

Я з сумам іду ў свой насавы кубрык.

Матросы частуюць нямецкага капітана і яго памочніка абедам, а яны ядзяць і ўхмылка ня сходзіць з іх твару, быццам хочуць сказаць:

— Сябры, маўляў, мы з вамі.

Да вечару час прайшоў бяз прыгоды. Напаткалі толькі некалькі нэўтральных параходаў. Ізноў начавалі на дне.

---

Назаўтра пагода пагоршала. Паказаліся скалістыя берагі. У іх хаваліся затокі. Падышлі бліжэй. Мора тут ярылася і грымела. Вялізныя хвалі бяз устанку бухалі па каменных цьвярдніцах, ускіпалі пенай, пырскамі, падобнымі да шкляное шрапнэлі. Стромыя скалы, шнараватыя ад шматгадовых боек, пахмура паглядалі ў загадкавую далеч, скуль на іх насоўваліся новыя нязьлічоныя палкі ў белых шышках.

Здалёк паказаўся дымок.

«Мурэна» пайшла наперарэз курсу невядомага судна. Дым набліжаўся, павялічваўся. А калі паказаліся мачты і пачалі рысаваць па блакіце неба—мы схаваліся пад воду.

Праз нейкі час камандзір паведаміў нас з рубкі:

— Нямецкае судно. Тыпу не магу вызначыць.

Нарыхтаваліся да стрэлу.

Пасьля раздалася каманда:

— Насавыя апараты—рыхтуйся!

Я стаю каля правага міннага апарату, Адна рука трымаецца за ручку баявога клапану, нага пастаўлена на вагар стопара. Такую-ж паставу мае і другі мінны машыністы каля левага міннага апарату. Чакаем на наступную каманду, найстрашнейшую, а ў глыбі душы, як далёкая зігавіца, успыхне загадка,—значыць, нейкі ваенны карабель.

Каля нас, пры рупары перагаворнае трубы, як перадатчык і наглядальнік, стаіць мінны афіцэр, мічман Кудраўцаў. Рот у яго прачынены, тонкая шыя ненатуральна выцягнена і на ёй стырчыць вялікі гарляк.

Напружанасьць расьце. Усе застыглі на месцы. Шырока расчыненыя вочы ня міргаюць. З кожнаю мінутай мы набліжаемся да нейкае загадкавае рысы. Што чакае нас? Гэтая бязьведамнасьць, гэтая таем-

насьць, як чыгунным прэсам, расплюшчвае душу...

— Правы апарат...

Кароткая паўза, але самая балючая, жудасная. Грудзі напружыліся, бяз дыханьня. Мы як быццам пасоўваемся толькі па адным валасочку праз цёмнае бяздоньне.

— Плі!

Апошняе слова прагучэла, як прысуд лёсу, узарвала вушы, бліскавіцаю прасякло сьвядомасьць. Скалануліся грудзі. Я турзануў за ручку баявога клапана і адначасна націснуў нагою на вагар стопару. Быццам сыты кадаўб, шмыгнула з апарату адшліфаваная міна, страсянула ўвесь корпус лодкі. Вырвалася, як корак з вялізнай бутэлькі, злосьмешліва віснула, загула, і з хуткасьцю кур'ерскага цягніка памкнулася да свае мэты.

Ад моцнага штуршка некаторыя матросы ўпалі, але зараз-жа падняліся. Кожны цяпер стаіць на моцных, шырока расстаўленых нагах. Зараз раўне выбух, нашу лодку адкіне ў бок. Чакаем...

— Левы апарат—плі!

І зноў жудасныя сэкунды чаканьня.

Промах абодва разы.

Як даведаліся пасьля, гэта быў нямецкі параход, узброены гарматамі. Дзеля гэтага наш камандзір парашыў патапіць яго без папярэджаньня. Але ў самы крытычны момант здарылася маленькае няшчасьце: камандзір разьбіў свае акуляры. Толькі і ўсяго. Драбніца. Але ў нашым падводным плаваньні ўсё небясьпечна. Аказалася, што камандзір без акуляраў, як нованароджанае шчаня,—ні чорта ня бачыць. Так і пашоў параход бяз шкоды. Але мы, дзякуючы гэтаму, папалі ў новае крытычнае палажэньне.

Усплылі на паверхню мора. Не пасьпелі адчыніць люк ад рубкі, як скуль ні ўзяўся—варожы мінаносец. А гэта для падводнае лодкі найгоршы вораг. Ён ляціць на нас поўным ходам.

— Да спусканьня!—грымнуў камандзір немаголасам і адразу выпаліў усе каманды.

Усім стала ясна, што небясьпека насунулася ўсутыч. Зразумелі гэта і нашыя палонныя, якія сядзелі ў насавым аддзяленьні,—абодва зьбялелі і вырачылі вочы.

Працуюць помпы, шумяць цыстэрны. А каля лодкі ўжо пачалі рвацца снарады. Павольна спушчаемся. Ах, хутчэй-бы на

дно. Хоць у апраметную, абы толькі ня быць расьсечаным варожым кіем. Раптам над насавою часткай, над самаю галавою, нешта рухнула, трэснула. Зазьвінелі ашчэнкі шкла, электрычнае асьвятленьне пагасла. Здавалася, што ўзарваўся мой мозг, выляцеў з чарапное каробкі. Можа гэта і ёсьць сьмерць? Не, я жывы, я чую, як у непраглряднай цемры нехта спамінае імя бога, а нехта лаецца мацернымі словамі.

Не пасьпелі апамятавацца, як пачулі, што да нас набліжаецца страшны гул, што на нас накочваецца нешта аграмаднае, быццам абрушваецца шматпаверхавы будынак. Трах! «Мурэна» мала-што не перакінулася. Угары нешта ламалася, трашчала, рвалася. Увесь корпус лодкі скрыпеў, уздрыгваў. У сярэдзіне з звонам ляцела начыньне і ўсялякая дробязь. Узвылі нечыя галасы, у сутаргах закалаціліся ў сьценах сталёвае цыгары.

Лодка апушчаецца ў бяздоньне, правальваецца, як камень. Гэта я адчуваю выразна. Халодная думка, як нажом, паласуе мозг—тут наша магіла! Бывай, жыцьцё!

Раптам «Мурэна» стукаецца ў грунт морскага дна. Крыкі сьціхлі, быццам увесь экіпаж памёр за адну хвіліну. Напэўна ўсе, як і я, сталі прыслухоўвацца, ці няма дзе цечы. Было ціха, ціха да ледзянога жаху. Нечакана ў маўклівую цемру ўварваўся ўладны крык:

— Спакой! Поўны спакой!..

Гэта быў голас камандзіра, страшны голас. Ён абнадзейваў і палохаў. Ён, як жалезнаю лапай, схапіў нашыя душы і трымаў іх пад сваёю ўладай.

Панікі ўжо няма. З баявое рубкі падаюцца правільныя распараджэньні. Яны дакладна выконваюцца тымі, да каго яны адносяцца—выконваюцца ў непраглядней цемры, вобмацкам, па прывычцы.

Праз некалькі хвілін лодка раптам асьвятлілася.

Надзея загарэлася ў вачох.

Глыбокамер паказвае сто трыццаць два футы. Цечы нідзе няма. З душы звальваецца камень.

— Слава богу...

— Цяпер вырвемся...

Да нас зьвяртаецца нямецкі капітан, нешта гаворыць. У яго трасуцца пашчэмкі, а ў вачох—сьлёзы, страх, быццам перад

ім трымаюць нож. Ён качае галавою і паказвае на свайго памоцніка. Глядзімо—той ляжыць нярухома на скрынях, скорчаны. Рукамі за галаву трымаецца. Рот разьзяўлены, вусны выкрывіў, вышчарыў зубы. Вырачаныя вочы глядзяць на нас застыглаю жудасьцю.

Клічам фэльчара. Ён мацае пульс, прыслухоўваецца да грудзей.

— Гатовы! Сэрца ня вытрывала...

Нехта тлумача:

— Так, бяз прывычкі цяжка вытрываць такую палундру...

---

Камандзір аглядае лодку. На твары яго—ніякай трывогі. Гэта супакойвае нас. Прабуем пэрыскопы. Яны не падымаюцца і не паварочваюцца. Відаць, пагнуты абодва. Цяпер прыдзецца намісьці адгэтуль насьлепа, як-бы з завязанымі вачыма. Да ночы падымацца на паверхню мора—няма чаго і думаць.

Даецца загад паменшыць баляст, каб надаць лодцы найменшую плывучасьць. Адначасна пускаем электрамоторы. «Мурэна» ані кранулася. Яшчэ паменшылі баляст. Глыбокамер прадаўжае заставацца на тэй-жа лічбе.

Камандзір праходзіць на нос. Кожная пара вачэй глядзіць на яго з запытаньнем. Але ён нічога не гаворыць, толькі прыкусвае ніжнюю губу ды закручвае сваю русую бародку накшталт запытальнага знаку. А гэта благая прыкмета: Значыць, здарылася нешта сур'ёзнае.

Страшная здагадка скрабянула мозг: лодка трапіла на мулаватае месца і яе зацягнула мулам. Я пачынаю разумець усю трагэдыю нашага становішча. Калі-б звольніцца ад балясту зусім, дык магчыма што мы і ўсплывем. Але калі акажацца, што мінаносец будзе дзе-небудзь блізка альбо нават побач з намі? Нам пагражае нямінучая гібель. Заставацца так да ночы— лодка яшчэ мацней прыліпне да морскага дна.

На тварах каманды разьліта трывога, тупая пакорлівасьць перад лёсам. У душу прасякае жудасьць, замарожвае волю.

Страшнымі вачыма глядзіць на нас нябожчык з разьзяўленым ротам, быццам хоча закрычаць:

— Нікуды вам ня выйсьці адгэтуль!.. І бясьсільна, як птушка з паламанымі крыламі, б'ецца крывавая думка: няўжо-ж няма выхаду?

— Прымеце труп!—сярдзіта загадвае камандзір.

Некалькі чалавек кідаюцца да нябожчыка і прыбіраюць яго ў насавую шахту, пад насьцілку.

Камандзір глядзіць на свой гадзіньнік і ўпэўнена гаворыць:

— Глупства! Пасядзімо яшчэ трошкі тут і пойдзем. Проста ў свой порт. А пакуль што—кожны можа забаўляцца пасвойму.

Ён усьміхаецца, усьміхаюцца, быццам па камандзе, і ўсе іншыя. Мы верым у шчасьлівую зорку камандзіра, верым у тое, што ён добра ведае «Мурэну». На душы прасьвятляецца цемра безнадзейнасьці.

Камандзір гутарыць панямецку з капітанам. Мы слухаем і не разумеем. Тут-жа стаяць і іншыя афіцэры. Капітан стараецца ўсьміхацца, але яго твар толькі крывіцца.

— Аказваецца, ня хоча, каб мы загінулі ад нямецкага мінаносца,—тлумачыць камандзір.—Жадае нашай лодцы выратавацца. Вось вам і патрыёт!

Афіцэры ідуць у кают-кампанію, але мой мозг падхапляе выпадкова кінутую думку.

Я пытаюся сам сябе: а якія могуць быць жаданьні ў кожнага з нас, калі апынуцца ў становішчы капітана сярод немцаў?..

Мяне штурхае моторысты Залейкін.

— Ну, што, брат?

— Нічога.

— Як нічога? А чаму-ж, скажы ты мне, у барана хвост апушчаны, а ў казла задраны ўгару?

Залейкін зрабіў кароткую паўзу і сур'ёзна наказвае мне:

— Не, ты падумай пра гэтае. Пытаньне, можна сказаць, філёзофскае. У ім сэнс жыцьця зьмяшчаецца...

— Ах, ты трапло гэткае!—сьмяюцца матросы.

Залейкін глянуў на ўсіх, хітравата пасьміхнуўся.

— Эх, братва! Нядаўна выпадак мне здарыўся...

— А ну, дружба, пазвані крыху, пацеш каманду,—чэпяцца да яго матросы.

— Тут не пацеха, а факт быў,—пачынае Залейкін.—Вось як гэта трэба разумець. Так, іду я ўначы па горадзе. Позна ўжо. Людзей мала. Ажно—па хадніку гарняшка плыве, пакачваецца, як чайка на лёгкіх хвалях. А за ёю ў кільватэр, важна так

сабака выступае. Здаравенны пёс, з пароды сант-бэрнар. Я бліжэй ды бліжэй да гарняшкі—пазнаёміўся. Спацыруем па горадзе, гамонім. Праходзім каля аднаго саду, паўз плоту. Цень ад дрэваў.

Каля Залейкіна—амаль уся каманда. І я тут! Забыта, у якім палажэньні знаходзіцца наша «Мурэна». Усе слухаем, выцягваючы шыі да гэтага пацешнага мотарыстага, а ён прадаўжае:

— Уздумаў я тут падурэць крыху. Выр- ваў у горнічнай насавую хустачку. Яна давай адбіраць у мяне назад, а сама ахае ды вохае. Ну, так сабе—дурэем. У гэты час нехта я-а-ак шандарахне мяне ў бок. Так я і перакуліўся дагары нагамі. Ляжу наўзнак. Ажно— нада мною стаіць. Зяпу разьзявіў, клыкі вышчарыў, рычыць мне ў самы твар, дыхае сабачым духам. А з мяне ўжо і душа вон. Нават голас адняўся. Тут ужо яна, горнічная, заступілася. «Трэзорка,—кажа,—ня руш, ня трэба. Любы Трэзорка! Хадзі да мяне». Адпусьціў маю душачку на пакаяньне—зьлез з мяне. Так-сяк падняўся я, даю задні ход, ледзь рухаюся. Усе мае ўнутраныя і вонкавыя мэханізмы расшрубаваліся—ні на чорта няздатныя. І

сам ня ведаю, як гэта я да свае базы дабраўся...

У лодцы доўга плешчацца нэрвовы рогат каманды.

Я думаю, што без Залейкіна мы ўжо даўно павар'яцелі-б.

---

Камандзір у рубцы. Дае загад усплываць.

Эх, ці давядзецца нам яшчэ раз пабачыць белы сьвет!

З шумам звальняюцца ад вады цыстэрны. Электрамоторы працуюць поўным ходам. Афіцэры, уся каманда і нават палонны капітан стараюцца раскачаць лодку, азьвярэла кідаюцца ад аднаго борта да другога.

— На левы... На правы...—камандуе старшы афіцэр.

Але лодка ані кранецца, як хто трымае яе зубамі.

Ізноў роспач замарожвае кроў.

Пастаноўлена спрабаваць апошні спосаб: выпусьціць міну. Калі і гэта не паможа—«Мурэна» станецца вечнаю магілай для нас.

— Электрамоторы—поўны назад!—камандуе камандзір.

Міна шарахнулася ўперад.

«Мурэна» турзнула, як жывая, і з імпэтам, быццам сама ўзрадавалася, што ўдалося адарвацца ад морскага дна, паляцела ўгару.

Мінаносец у гэты час быў ужо вельмі далёка. Ён нас нават і не заўважыў. Мы пасьпелі ізноў схавацца ў ваду і пайшлі на глыбіні трыццаць—сорак футаў. Ішлі без пэрыскопаў. Толькі ўначы падняліся на паверхню мора.

Тэлеграфісты Зобаў па радыё кінуў у прастору вестку пра «Мурэну».

---

Гарачынёю патыхае неба.

«Мурэна» рэжа гладкую паверхню мора і імчыцца да родных берагоў.

Мы сядзімо на верхняй палубе. Сонца аблівае нас сьпякотай. Змучаная душа адпачывае, напоўненая блакітным сьвятлом. Нікому ня хочацца ўспамінаць пра тое, што нядаўна пережыта. Хай яно ніколі болей не паўторыцца.

Залейкін грае і сьпявае. Яго двухрадка расьцягваецца ўва ўсю шырыню рук. У блакітнай прасторы каляровымі ўвабранымі матылькамі круцяцца і ўзьвіваюцца

гукі гармонікі, а сярод іх жар-птушкаю лунае звонкі тэнар сьпевака.

Нехта крыкнуў:

— Зямля!

Усе глядзімо наперад. Там, за круглаю рысай небасхілу, паступова вырастаюць цэрквы, дамы, гавань, быццам падымаюцца з мора. Нас сустракаюць чайкі, узьлятаюць над лодкаю і крычаць. А з берагу плешчацца ў душу зялёныя хвалі вясны.

---

